ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК

СНЕЖАНЬ, **2013**

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Чаму праваабаронцы выступаюць супраць смяротнага пакарання ў Беларусі

СТАР. 3

Аб праблемах алкагалізацыі насельніцтва Беларусі даведаецца ААН

СТАР. 4

# Валянцін Стэфановіч: У справе Алеся Бяляцкага шмат судовых памылак

***Два гады таму быў абвешчаны прысуд кіраўніку праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесю Бяляцкаму. Суд Першамайскага раёну Менска прызнаў яго вінаватым ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры і прыгаварыў да чатырох з паловай гадоў зняволення. Праваабаронцы лічаць прысуд палітычна матываваным, а справу сфабрыкаванай.***

За асабістыя сродкі Алеся Бяляцкага следства выдала грошы, якія накіроўваліся на праваабарончую дзейнасць і дапамагу рэпрэсаваным.

Наместнік кіраўніка "Вясны" Валянцін Стэфановіч нагадаў, што нават ў прысудзе адзначана - Бяляцкі выконваў абавязательствы, узятыя на сябе згодна з раней дасягнутымі дамоўленасцямі.

- Суд, выкарыстаўшы гэтую фармулёўку, так і не даў адказу, якіх дамоўленасцяў і якіх абавязацельстваў. А гэта вельмі істотна. Таму што і Бяляцкі, і ягоная абарона сцвярджалі, што паводле тых дамоўленасцяў, якія былі ўзятыя праваабарончым цэнтрам "Вясна" і замежнымі фондамі, якія фінансавалі праваабончую дзейнасць праваабарончага цэнтра "Вясна", ён абавязаны быў гэтыя грашовыя сродкі перадаць трэцім асобам, то бок па прызначэнні выканная гэтых абавязацельстваў.

Падчас разгляду справы былі агалошаны пісьмовыя доказы, якія прдставілі фонды-донары, а таксама былі дапытаныя сведкі, гэтак званыя "трэція асобы", якія гэтую дапамогу атрымлівалі. Аднак ні суд, ні следства не выканалі ўказання пракуратуры Менска і не звярнуліся з запытам да фондаў,



якія передавалі сродкі Бяляцкаму, каб высветліць прыроду іх паходжання і мэты, на якія яны пералічваліся. А гэта вельмі істотна для справы, - падкрэсліў Валянцін Стэфановіч, - таму што паводле падатковага кодэксу, грашовыя сродкі, якія перадаюцца па дамоўленасці трэцім асобам, не падлягаюць падаткаабкладанню.

**Праваабарончы цэнтр "Вясна"**

*Прафэсія праваабаронцы – не для для слабакоў, упэўніваемся мы пасьля гутаркі з Настай Лойкай, супрацоўніцай Праваабрончага цэнтра "Вясна".*

# Наста Лойка: Праваабаронца – шчыт паміж чалавекам і ўладай

Пра ўзаемадачыненьні праваабаронцаў і палітвязьняў, пра тое, чым "дыхаюць" праваабаронцы і чым яны адрозьніваюцца ад палітыкаў – чытайце ў новым матэрыяле сайта palitviazni.info.

Паступіўшы ў юрыдычны каледж, пятнаццацігадовая Наста Лойка яшчэ не да канца ўсьведамляла, што ўяўляе сабой юрыдычная дзейнасьць у Беларусі, і якія могуць быць наступствы ад гэтага занятка. Дзяўчына наіўна лічыла, што калі ідэальна падрыхтаваць дакумэнты, можна зарэгістраваць нават "Малады Фронт". Першапачаткова правальны плян рэгістрацыі МФ прынёс моцнае расчараваньне і жаданьне зьмяніць сфэру дзейнасьці, што ледзь не пазбавіла нас асобы, якую журналісты любяць называць "маладой праваабаронцай Настай Лойкай".
Пераасэнсаваўшы многае, Наста вырашыла накіраваць свае веды на дапамогу людзям і пачала цікавіцца тэмай правоў чалавека, а ў 2010 годзе апынулася ў Праваабарончым цэнтры "Вясьна", дзе стала займацца тэмай палітвязьняў на прафэсійным узроўні.

Працяг на стар. 2

# Наста Лойка: Праваабаронца – шчыт паміж чалавекам і ўладай

**(Пачатак на 1 стар.)**




асэнсоўваць сытуацыю больш грунтоўна, каб ня думаць, што ўсё кепска і безвыходна. Асабіста мне дапамагае рэлігія, гэта вельмі ўзмацняе, зьяўляецца разуменьне, што чалавек проста так не пакутуе, што ў рэшце рэшт усім за ўсё вздасца.

Сёньня мы ня можам прынцыпова паўплываць на тое, каб людзей не саджалі за краты, мы ня можам зрабіць так, каб вязьні датэрмінова выйшлі на волю. Гэта часам вельмі абцяжарвае, узьнікае адчуваньне бессэнсоўнасьці, але мы спрабуем рабіць хоць што-небудзь, каб на вязьняў не забываліся і іх родных падтрымлівалі.

З аднаго боку, несправядлівасьць матывуе да працы, дзейнасьці, актывізуе, але зь іншага боку, бываюць бязьмежныя перажываньні, моцнае псыхалягічнае напружаньне, але тым ня менш, тэма палітвязьняў мне настолькі важная, што я гатовая атрымліваць псыхалягічныя траўмы, ахвяраваць нэрвамі.

**palitviazni.info:** А калі б ты ня была знаёмая зь беларускай апазыцыйнай "тусоўкай", ці было б табе ў эмацыйным пляне лягчэй працаваць?

**Наста Лойка:** Ня ведаю, цяжэй ці лягчэй, але шмат людзей праз нас праходзіць. Знаёмы ты з чалавекам ці не, у працэсе можна шмат пра яго даведацца, пазнаёміцца зь яго роднымі і вельмі да іх пранікнуцца.

**palitviazni.info:** Наста, ты неяк казала, што палітвязьні – твой асабісты боль. Чаму? І ці ня лічыш ты, што праваабронцы падобныя да мазахістаў, бо перажываюць за палітвязьняў цягам усяго працоўнага дня? Ці абарона актывістаў, наведваньне судовых пасяджэньняў ужо ператварыліся ў звычку, мэханічны працэс, якія не патрабуюць эмоцыяў?

**Наста Лойка:** Усе супрацоўнікі "Вясны" так ці інакш зьвязаныя з палітзьняволенымі. Мае старэйшыя калегі займаюцца аналітычнай працай, журналісты зьбіраюць інфармацыю, і так атрымалася, што з роднымі палітвязьняў камунікую я. Так, гэта цяжка, праблема, але трэба ўмець пераключацца і Але, на вялікі жаль, шмат знаёмых…
Я ўзгадваю падзеі 2006-га году. Сапраўды, затрыманьні блізкіх людзей былі вялікай праблемай, бо я тады прафэсійна праваабарончай дзейнасьцю не займалася, і адпаведна менш ведала. А ў 2010-м годзе ў мяне да сябе было нейкае жахлівае стаўленьне, бо мы ў нейкім пляне распрацавалі мэханізм псыхалягічнай абароны.

Завал на працы, бесперапынна гудуць тэлефоны, ты гартаеш сьпісы затрыманых, бачыш імёны знаёмых і сяброў, усьведамляеш, што ідуць суды, але ты ня можаш вырвацца, каб перадаць перадачкі, падтрымаць. Так, быў пэўны дыскамфорт, а зь іншага боку я разумела, што ёсьць людзі, якіх затрымалі першы раз. І звычайна, я больш перажываю за іх, бо тыя, хто ўпершыню сутыкаецца з затрыманьнем, адсідкай, яны не падрыхтаваныя і значна цяжэй пераносяць няволю.

Так ці інакш я вымушана працаваць зь людзьмі, якіх часта затрымліваюць. Нехта зь іх больш сымпатычны, нехта менш. Усім спрабуеш дапамагаць па меры магчымасьці, не зьвяртаючы ўвагі на асабістыя стаўленьні і іншыя рэчы.

**palitviazni.info:** Ці розьняцца дзеяньні палітыкаў і праваабронцаў у справе абароны палітвязьняў? Чым адрозьніваюцца праваабронцы ад палітыкаў?

**Наста Лойка:** Палітыкі ў Беларусі часта ўздымаюць праблематыку, якая зьвязаная з правамі чалавека. Яны зазначаюць, што ўлады ўшчамляюць правы чалавека, гэта рыторыка падобная да праваабаронча й. Бываюць падобнымі і нагоды, калі палітыкі як і праваабронцы праводзяць масавыя мерапрыемствы і ўжываюць лёзунгі, зьвязаныя з правамі чалавека, выказваюць пэўныя патрабаваньні ў гэтай галіне. Але, зразумела, мэты палітыкаў і праваабаронцаў розныя. Звычайна, палітыкі хочуць прыцягнуць больш людзей да сябе, а праваабаронцы - зьвярнуць увагу на праблему. Часта людзі такіх акалічнасьцяў не разумеюць, таму блытаюць палітыкаў з праваабаронцамі.

Пераважная большасьць "кліентаў" праваабарончага цэнтру "Вясна"– гэта палітычныя актывісты. Самае дзіўнае, што нават іх, актывістаў, вельмі цяжка пераканаць, што мы, праваабаронцы, зь імі не аднаго поля ягады, што мы займаемся рознымі рэчамі.

Асаблівасьць Беларусі - калі ўсе ўсім займаюцца, а менавіта калі палітыкі займаюцца праваабарончай дзейнасьцю (некаторыя сапраўды прэтэндуюць на гэта). Але гэта ня значыць, што праваабаронцы займаюцца палітыкай. Асабіста мяне крыўдзяць выказваньні кшталту - праваабаронца Алесь Бяляцкі можа стаць кандыдатам на пасаду прэзыдэнта. Я лічу, гэта іншая сфэра, іншы выбар.

Праваабаронца не павінен займацца палітыкай, бо ў палітыкаў асноўная мэта – стаць новай уладай, а ўлада, якой бы дэмакратычнай яна ня была, парушае правы чалавека. Функцыя праваабаронцаў павінна быць нязьменнай пры любой уладзе.

**palitviazni.info**

# Леанід Судаленка: "Чалавек недасведчаны можа сказаць, што мы "абараняем забойцаў". Гэта не так"




**Гомельскі юрыст Леанід Судаленка, які ў межах кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" рыхтаваў скаргу ў ААН Аляксандра Грунова, у інтэрв'ю для dp.spring96.org разважае пра неэфектыўнасць смяротнай кары як меры пакарання.**

*- Вы займаліся падрыхтоўкай скаргі ў ААН Аляксандра Грунова – абвінавачанага па рэзананснай справе пра забойства гомельскай студэнткі… Часта можна сутыкнуцца з такім стэрэатыпам – і ў СМІ, і на ўзроўні побытавай свядомасці - што праваабаронцы, якія выступаюць супраць смяротнага пакарання, "абараняюць забойцаў".*

- Калі чалавек недасведчаны, то ён можа сказаць, што праваабаронца "абараняе забойцаў". Насамрэч гэта не так. Напрыклад, калі я працаваў пра справе Грунова, то я з'яўляўся такім "мосцікам" паміж маці Грунова, адвакатам Грунова і Камітэтам ААН. Меў даверанасць ад Грунова на працу з Камітэтам ААН. Але ў нацыянальнай судовай сістэме я не маю права на яго абарону, гэтым займаюцца адвакаты. Я рыхтаваў і падрыхтаваў у Камітэт ААН скаргу ад імя Грунова, дзе адзначыў шэраг парушэнняў дзяржавай яго правоў, у тым ліку - права на жыццё. Справу Грунова Вярхоўны суд накіраваў на перагляд. 26 лістапада пачаўся суд па пераглядзе… Гэта не значыць, што "праваабаронцы абараняюць забойцаў".

*- Дык каго і чаму абараняюць актывісты кампаніі за адмену смяротнага пакарання?*

- Мы, удзельнікі кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі", не даем ацэнак злачынстваў. Мы выступаем супраць смяротнай кары як меры пакарання. Жыццё ёсць каштоўнасць, гэта прызнаюць усе краіны Еўропы, і наша краіна мусіць далучыцца да гэтых краін, пайсці шляхам, якім пайшлі нашы бліжэйшыя суседзі – Расія і Украіна. Выкарыстанне смяротнага пакарання ў XXI стагоддзі – гэта проста дзікунства. І Беларуская праваслаўная царква выказваецца супраць смяротнага пакарання, кажа, што жыццё чалавеку дае Бог і забраць жыццё можа толькі Бог. А яшчэ судовыя памылкі… Мы памятаем выпадкі, калі расстрэльвалі невінаватых людзей. А смяротнае пакаранне мае незваротны характар – жыццё чалавеку не вернеш, калі будзе прызнаная судовая памылка. Калі можна было б фантазіраваць і ўявіць, што пакаранне смерцю забойцы можа вярнуць жыццё, уваскрасіць забітага ім чалавека, ахвяру - тады можна было б казаць пра эфектыўнасць смяротнага пакарання. Але ніхто не верне жыццё забітаму чалавеку. Наша грамадства не гатова даць адказ на пытанне – ці патрэбна нам смяротнае пакаранне, гэта адбываецца, у тым ліку, з-за таго, што дзяржава не тлумачыць плюсы і мінусы смяротнага пакарання. Але гэта не толькі праблема нашага грамадства, у краінах, дзе адмененая смяротная кара, шмат людзей выказваецца таксама за смяротную кару. Праблема смяротнага пакарання - не пытанне, якое вырашаецца на рэферэндумах. Гэта пытанне, якое вырашаюць эліты.

*- Ёсць такое меркаванне (таксама на пабытовым узроўні), што калі адмяніць смяротнае пакаранне, пачнецца разгул злачынстваў, павялічыцца колькасць маньякаў і серыйных забойцаў. Наколькі эфектыўнае смяротнае пакаранне ў плане прафілактыкі злачынстваў?*

- Калі б смяротнае пакаранне з'яўлялася эфектыўным сродкам спынення цяжкіх злачынстваў, дык нам, напэўна, не давялося б казаць, што ў гэтым годзе да смяротнага пакарання ў Беларусі асуджаныя тры чалавекі… І так штогод – то тры, то два. Сам факт выкарыстання ў краіне смяротнага пакарання не з'яўляецца стрымліваючым фактарам і не вядзе да зніжэння колькасці цяжкіх злачынстваў, за якія яно выносіцца. Ужо даказана, што забойца, які пазбаўляе жыцця сваю ахвяру, не думае пра тое, што яго таксама пазбавяць жыцця.

*- А што тычыцца справы Грунова?*

- Гэты чалавек хворы. Яго спачатку трэба лячыць, а пасля прыцягваць да адказнасці. Таму мы з адвакатам патрабавалі, каб правялі новую паглыбленую экспертызу стану яго псіхічнага здароўя. І, акрамя смяротнага пакарання, ёсць такое пакаранне як пажыццёвае зняволенне.

**Гутарыла Паліна Сцепаненка, адмыслова для кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі"**

*Кіраўнік Беларускай праваслаўнай царквы адказаў на зварот Тамары Сялюн – яе сына прыгаварылі да найвышэйшай меры пакарання. Мітрапаліт Філарэт падкрэсліў, што БПЦ выступае супраць смяротнага пакарання ў Беларусі.*

"Беларуская праваслаўная царква прыкладае намаганні, каб смяротныя прысуды ў нашай краіне не выконваліся, што цалкам адпавядае палажэнням, выкладзеным у "Асновах сацыяльнай канцэпцыі Рускай праваслаўнай царквы, - **адзначаецца ў адказе за подпісам Мітрапаліта Філарэта.** – Хрысціянскае маральнае выха-ванне выхавала ў свядомасці людзей адмоўнае стаўленне да смяротнага пакарання. Адмена смяротнага пакарання дае больш магчымасцяў для пастырскай працы з тым, хто аступіўся, і для яго ўласнага пакаяння".

# Аб праблемах алкагалізацыі насельніцтва ў Беларусі даведаюцца ў ААН

*Гомельскі грамадзкі актывіст кампаніі "Хопіць піць – трэба жыць" Зміцер Карашкоў зьвярнуўся са скаргай у Камітэт па правах чалавека ААН. Ён лічыць, што беларускі ўрад парушыў ягонае права на свабоду мірных сходаў і на свабоду выказваньня меркаваньня, забараніўшы правесці ў абласным цэнтры мірны сход на тэму прыцягнення увагі грамадства к праблемам алкагалізацыі насельніцтва ў краіне.*

Актывіст лічыць, што ягоныя правы былі парушаныя Гомельскім гарвыканкамам, які адмовіў яму ў правядзеньні пікету, матывававўшы гэта тым, што масавае мерапрыемства плянуецца не ў вызначаным для гэтага месцы, а таксама не заключаны платныя дамовы зь міліцыяй, «хуткай» і камунальнікамі (як таго патрабавала рашэньне выканкаму «Аб масавых мерапрыемствах»).

Адмову заяўнік пікету абскардзіў у судзе, спачатку – раённым, затым – абласным і Вярхоўным. Але гэта не прынесла плёну. Таму, вычарпаўшы ўсе нутраныя сродкі праўнай абароны, Зміцер Карашкоў зьвярнуўся ў Камітэт па правах чалавека ААН.

У індывідуальнай скарзе ён зьвяртае ўвагу, што на момант плянаванага пікету ў Гомелі з насельніцтвам амаль 500 тысячаў была толькі адна пляцоўка, вызначаная для такіх мэтаў, як масавыя мерапрыемствы. А да правядзеньня пікету яшчэ й трэба заключыць платныя дамовы з адмысловымі службамі. «Практыка прымяненьня дадзенага рашэньня прывяла да таго, што мае правы на мірныя сходы, на выказваньне меркаваньня былі парушаныя», – піша ў скарзе актывіст.

Ён просіць прызнаць парушэньне ягоных правоў і даць рэкамэндацыі беларускаму ўраду прывесьці нацыянальнае заканадаўства ў адпаведнасьць зь міжнароднымі абавязкамі краіны.

*«Беларускія чыноўнікі адмаўляюцца прызнаваць правы й свабоды сваіх грамадзянаў, гарантаваныя Канстытуцыяй і міжнароднымі дакумэнтамі, ратыфікаванымі Рэспублікай Беларусь. Напрыклад, у Гомельскай вобласьці мясцовыя ўлады за апошнія дзесяць год не дазволілі правесьці аніводнага мірнага сходу. А заяўкі падавалі на правядзеньне мітынгаў і пікетаў больш чым 200 разоў – і ніводнага дазволу. Сёньня можна сьцвярджаць, што ў нашай краіне зьнішчана сама сутнасьць права кожнага на мірны сход, і, як вынік – на свабоду выказваньня свайго меркаваньня», – пракамэнтаваў праваабаронца Леанід Судаленка, які дапамагаў актывісту рыхтаваць скаргу.*

Напамятаем, каардынатар грамадзянскай кампаніі «Хопіць піць — трэба жыць» Зміцер Карашкоў паслядоўна выступае супраць алкагалізацыі насельніцтва ў краіне. 11 лістапада ён быў затрыманы на цэнтральнай плошчы Леніна ў Гомелі, калі выйшаў на плошчу з антыалкагольным пікетам. Перад вокнамі аблвыканкама актывіст разгарнуў вялізны надпіс "Спыніце продаж алкаголю каля школ". Змітра хутка затрымалі і пасадзілі ў міліцэйскую машыну. У Цэнтральным РАУС Гомеля міліцыя склала на яго пратакол па артыкуле 23.34 КаАП (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства).

**http://gomelspring.org/**




Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.